| | |
|---|---|
| Хвоя | шышулькі, іголца |
| Хироптерофилия | хіраптэрафілія |
| Хлоренхима | хларэнхіма |
| Хлоропласты | хларапласты |
| Хлорофилл | хларафіл |
| Хлорофилловое зерно | хларафілавае зерне |
| Ходульные корни | хадульныя карані |
| Холостамия | халагамія |
| Хондриом | хандрыём |
| Хроматида | храматыда |
| Хроматин | храматын |
| Хроматиновая сеть | храматынавая, храмацінавая сетка |
| Хроматофор | храматафор |
| Хромомеры | храмамеры |
| Хромонема | храманема |
| Хромопласт | храмапласт |
| Хромосомы | храмасомы |
| Хромоцентр | храмацэнтр |

Ц

| | |
|---|---|
| Царство природы | царства прыроды |
| Цветение | цвіценне |
| "Цветение воды" | "цвіценне вады" /брасненне/ |
| "Цветение" снега | "цвіценне" снегу |
| Цветковые растения | кветкавыя расліны |
| Цветковые чешуйки | кветкавыя лускавінкі |
| Цветоводство | кветкаводства |
| Цветок | кветка |
| Цветоложе | кветкалажа |



| | |
|---|---|
| Цветоножка | кветканожка |
| Цветонос | кветканос |
| Цветоносные побеги | кветканосныя парасткі |
| Цветочная почка | кветкавая пупышка |
| Цветочная стрелка | кветкавая стрэлка |
| Цветочные часы | кветкавы гадзіннік |
| Цедра | цэдра |
| Целлюлаза | цэлюлаза |
| Целлюлоза | цэлюлоза |
| Целлюлярный эндосперм | цэлюлярны эндасперм |
| Целобласты | цэлабласты |
| Целостность организма | цэласнасць арганізма |
| Цельная чашечка | цэльная чашачка |
| Цельнокрайний лист | суцэльнакрайні ліст |
| Цельный лист | цэльны /суцэльны/ ліст |
| Ценобий | цэнобій |
| Ценобиоз | цэнабіёз |
| Ценобионты | цэнабіёнты |
| Ценогенез | цэнагенез |
| Ценоз | цэноз |
| Ценокарпный гинецей | цэнакарпны гінецэй |
| Ценокарпный плод | цэнакарпны плод |
| Центральная клетка | цэнтральная клетка |
| Центральная плацентация | цэнтральная плацэнтацыя |
| Центральное ядро | цэнтральнае ядро |
| Центрально-угловая плацентация | цэнтральна-вуглавая плацэнтацыя |
| Центриоль | цэнтрыоль |
| Центродесмоз | цэнтрадэсмаз |
| Центромера | цэнтрамера |

| | |
|---|---|
| Цепь питания | ланцугі жыўлення |
| Цепкие плоды | учэпістыя плады |
| Цепляющиеся корни | чаплястыя карані |
| Цепляющийся стебель | чаплістае сцябло |
| Цецидии | цэцыдыі |
| Цианеллы | цыянэлы |
| Цианобактерии | цыянабактэрыі |
| Циатий | цыятый |
| Цикл Кребса | цыкл Крэбса |
| Цикл развития | цыкл развіцця |
| Циклический цветок | цыклічная кветка |
| Цимозное соцветие | цымознае суквецце |
| Циркулярное движение протопласта | цыркулярны рух пратапласта |
| Циркцинотропный семязачаток | цырцынатропны семязачатак |
| Циста | цыста |
| Цистолит | цысталіт |
| Цистрон | цыстрон |
| Цитаза | цытаза |
| Цитогенетика | цытагенетыка |
| Цитокинез | цытакінез |
| Цитокинины | цытакініны |
| Цитолиз | цытоліз |
| Цитология | цыталогія |
| Цитоплазма | цытаплазма |
| Цитоплазматическая мембрана | цытаплазматычная мембрана |
| Цитоплазматический матрикс | цытаплазматычны матрыкс |
| Цитотомия | цытатомія |
| Циторис | цыторыз |
| Цитохимера | цытахімера |
| Цитохимия | цытахімія |



## Ч

| | |
|---|---|
| Частичная автостерильность | частковая аўтастэрыльнасць |
| Частичная партенокарпия | частковая партэнакарпія |
| Чашелистики | чашалісцікі |
| Чашечка | чашачка |
| Чашечковидный околоцветник | чашачкападобны калякветнік |
| Чередование поколений | чаргаванне пакаленняў |
| Черенкование растений | чаранкаванне раслін |
| Черенок | чаранок |
| Черепитчатая луковица | чарапічная цыбуліна |
| Черепитчатое почкосложение | чарапічнае пупышкаскладанне |
| Черешочек | чараночак |
| Черешчатая почка | чаранкаватая пупышка |
| Черешчатый лист | чаранкаваты ліст |
| Четырёхсильный андроцей | чатырохмоцны андрацэй |
| Чечевички | сачыўкі |
| Чешуевидные листья | лускападобныя лісты |
| Чешуйки | лускавінкі |
| Чешуйчатая корка | лускаватая лупіна /корка/ |
| Чешуйчатое корневище | лускаватае карэнішча |
| Чешуйчатое опушение | лускаватае апушэнне |
| Чешуйчатые клубни | лускаватыя клубні |
| Чешуйчатые луковицы | лускаватыя цыбуліны |
| Чешуйчатый стебель | лускаватае сцябло |
| Чистая культура | чыстая культура |
| Чистая линия | чыстая лінія |
| Членик сосуда | членік сасуда |
| Членистые млечники | членістыя млечнікі |
| Членистый боб | членісты боб |

| | |
|---|---|
| Членистый стебель | членістае сцябло |
| Членистый столбик | членісты слупок |
| Чубук | цыбук |
| Чувствительность растений | адчувальнасць раслін |
| Чужеопыление | чужаапыленне |

Ш

| | |
|---|---|
| Шейка | шыйка |
| Шейка архегония | шыйка архегонія |
| Шейка корнеплода | шыйка каранняплода |
| Шейковые канальцевые клетки | шыйкавыя канальцавыя клеткі |
| Шелковистое опушение | шаўкавістае апушэнне |
| Шиловидный лист | шылападобны ліст |
| Шип | шып, калючка |
| Шишка | шышка |
| Шляпочные грибы | шапачкавыя грыбы |
| Шов | шво |
| Шпорец | шпорац, шпорка |
| Штамм | штам |
| Штамб | штамб |

Щ

| | |
|---|---|
| Щелевидные поры | шчылінападобныя /шчылінаватыя/ поры |
| Щель редукционная | шчыліна рэдукцыйная |
| Щетинистое опушение | шчаціністае апушэнне |
| Щетиновидный лист | шчацінападобны ліст |
| Щитковидное рыльце | шчыткападобнае рыльца |



| | |
|---|---|
| Щитовидный лист | шчытападобны ліст |
| Щиток | шчыток |
| Щуплость семян | шчупласць насення |

Э

| | |
|---|---|
| Эвантовая теория | эвантавая тэорыя |
| Эвгленовые водоросли | эўгленавыя водарасці |
| Эвокация | эвакацыя |
| Эволюционное учение | эвалюцыйнае вучэнне |
| Эволюция | эвалюцыя |
| Эврибионты | эўрыбіёнты |
| Эвритермные организмы | эўрытэрмныя арганізмы |
| Эврихорные растения | эўрыхорныя расліны |
| Эвстела | эўстэла |
| Эвтрофы, эвтрофные растения | эўтрофы, эўтрофныя расліны |
| Эдафические факторы | эдафічныя фактары |
| Эдафиты | эдафіты |
| Эдификаторы | эдыфікатары |
| Экваториальная пластинка | экватарыяльная пласцінка |
| Эквационное деление | эквацыйнае дзяленне |
| Эквационная щель | эквацыйная шчыліна |
| Эквифациальные листья | эквіфацыяльныя лісты |
| Экзархная ксилема | экзархная ксілема |
| Экзина | экзіна |
| Экзобиология | экзабіялогія |
| Экзогенные органы | экзагенныя органы |
| Экзодерма | экзадэрма |
| Экзокарпий | экзакарпій |

| | |
|---|---|
| Экзосимбиоз | экзасімбіёз |
| Экзоспоры | экзаспоры |
| Экзостом | экзастом |
| Экзотеций | экзатэцый |
| Экзотические растения /экзоты/ | экзатычныя расліны /экзоты/ |
| Экзотрофная микориза | экзатрофная мікарыза |
| Экзотрофные листья | экзатрофныя лісты |
| Экологическая анатомия | экалагічная анатомія |
| Экологическая география растений | экалагічная геаграфія раслін |
| Экологическая группа растений | экалагічная група раслін |
| Экологическая форма | экалагічная форма |
| Экологические факторы | экалагічныя фактары |
| Экологический ряд | экалагічны рад |
| Экологический тип | экалагічны тып |
| Экология | экалогія |
| Экоморфа | экаморфа |
| Экосистема | экасістэма |
| Экотоп | экатоп |
| Эксперимент | эксперымент |
| Экспериментальный партеногенез | эксперыментальны партэнагенез |
| Эксплантация | эксплантацыя |
| Экстенсивная культура | экстэнсіўная культура |
| Экстравагинальные побеги | экстравагінальныя парасткі |
| Экстразональная растительность | экстразанальная расліннасць |
| Экстрафлоральные нектарники | экстрафларальныя нектарнікі |
| Экстрацеллюлярный симбионт | экстрацэлюлярны сімбіёнт |
| Экстрорзный пыльник | экстрорзны пыльнік |
| Эксцентричность стебля | эксцэнтрычнасць сцябла |
| Эктогенез | эктагенез |
| Эктазоохория | эктазаахарыя |



| | |
|---|---|
| Эктазоохория | эктазоахарыя |
| Элайопласты | элаяпласты |
| Элайосомы | элаясомы |
| Элементарное волокно | элементарнае валакно |
| Элементы флоры | элементы флоры |
| Элиминация | элімінацыя |
| Элитные растения | элітныя расліны |
| Эллиптический лист | эліптычны ліст |
| Эмбриогенез | эмбрыягенез |
| Эмбриогенная партенокарпия | эмбрыягенная партэнакарпія |
| Эмбриология | эмбрыялогія |
| Эмбриональный мешок | эмбрыянальны мяшок |
| Эмбриональная ткань | эмбрыянальная тканка |
| Эмбриональный рост | эмбрыянальны рост |
| Эмбриональный этап | эмбрыянальны этап |
| Эмергенцы | эмергенцы |
| Эмпирическая диаграмма цветка | эмпірычная дыяграма кветкі |
| Энации | энацыі |
| Эндархная ксилема | эндархная ксілема |
| Эндемики, эндемы | эндэмікі, эндэмы |
| Эндогамия | эндагамія |
| Эндогенные органы | эндагенныя органы |
| Эндодерма | эндадэрма |
| Эндозоохория | эндазоахарыя |
| Эндокарпий | эндакарпій |
| Эндолиты | эндаліты |
| Эндомитоз | эндамітоз |
| Эндоплазма | эндаплазма |
| Эндоплазматическая сеть, эндоплазматический ретикулум | эндаплазматычная сетка, эндаплазматычны рэтыкулум |

| | |
|---|---|
| Эндосперм | эндасперм |
| Эндоспоры | эндаспоры |
| Эндостом | эндастом |
| Эндотермические процессы | эндатэрмічныя працэсы |
| Эндотеций | эндатэцый |
| Эндотрофные листья | эндатрофныя лісты |
| Энервативная стерильность | энерватыўчая стэрыльнасць |
| Энтомогамия | энтамагамія |
| Энтомофилия | энтамафілія |
| Энтомофильные растения | энтамафільныя расліны |
| Эпибласт | эпібласт |
| Эпиблема | эпіблема |
| Эпигенез | эпігенез |
| Эпидермис | эпідэрміс |
| Эпизоохория | эпізоахарыя |
| Эпикарпий | эпікарпій |
| Эпикотиль | эпікатыль |
| Эпителий | эпітэлій |
| Эпитема | эпітэма |
| Эпифитотия | эпіфітотыя |
| Эпифиллы | эпіфілы |
| Эпифиты | эпіфіты |
| Эргастические вещества | эргастычныя рэчывы |
| Эргастоплазма | эргастаплазма |
| Эриохоры | эрыяхоры |
| Этап зрелости | этап спеласці |
| Этап размножения | этап размнажэння |
| Этап старения | этап старэння |
| Этапы онтогенеза | этапы антагенезу |



| | |
|---|---|
| Этиоляция | этыляцыя |
| Этиопласты | этыяпласты |
| Этноботаника | этнабатаніка |
| Эуанциевая теория | эуанцыевая тэорыя |
| Эукариоты | эукарыёты |
| Эустела | эўстэла |
| Эухроматин | эухраматын /эухрамацін/ |
| Эфемерные цветки | эфемерныя кветкі |
| Эфемероиды | эфемероіды |
| Эфемеры | эфемеры |
| Эфирномасляные ходы | эфірнаалейныя хады |
| Эфирные масла | эфірныя алеі |

Ю

| | |
|---|---|
| Ювенильность | ювенільнасць |

Я

| | |
|---|---|
| Яблоко | яблык |
| Ягода | ягада |
| Ядерная апогамия | ядзерная апагамія |
| Ядерная оболочка | ядзерная абалонка |
| Ядерная плазма | ядзерная плазма |
| Ядерная сеть | ядзерная сетка |
| Ядерный кармашек | ядзерная кішэнька |
| Ядерный тип развития эндосперма | ядзерны тып развіцця эндасперму |
| Ядерно-цитоплазматическое воздействие | ядзерна-цытаплазматычнае узаемадзеянне |
| Ядовитые растения | ядавітыя расліны |

сіл у школьны горн /44/; Шчо бог дасць, Якаўко, што бог дасць,-- адказвала па-ракеўшому баба Насця /132/; Бабо Лісавето, а ці можаце успомніць.../24/; Мамо..., мамо... Мно цяжка. Чаму цябе няма?/127/; А мо я пачую, дзяненько.-- Лісавета ад слоў імгнення перакінулася на справы /224/; І не путайся /пытайся/, суседко /171/. Такія формы стале ўжываюцца у гаворках Брэсцка-Пінскага Палесся і яшчэ шырэй -- у паўднёва-заходнім дыялекце /Гл.:ДАБМ, карта № 34/.

Што да клічных форм ад агульных назоўнікаў мужчынскага роду, то яны больш разнастайныя: папо, папко, бацько, унучачко, браце, сынку: А колі ты, папо /па-гарадзецку так навучыўся "папо"/, паедзеш у свой горадок?/234/; От, унучачко, і не питайся /36/; Глянуў ты на мяне, мо і не памятаеш, і, браце, хоць я хаць наўцёк! /49/; Ты вось што, сынку: я свае, дзякуй богу, аджыў, а ты чапляйся за жытку і рукамі, і нагамі /10?/. Па дадзеных ДАБМ /карта № 23/ на Століншчыне пашыраны формы на -Э/Е/, -У/Ю/: браце, брату. Але, як бачым, аўтар рамана засведчыў, што найбольш ужывальная у Давыд-Гарадку і яго ваколіцах форма на -О/Е/: назоўнікі Адасё, унучачко сустракаюцца на старонках рамана многа разоў /гл. стар. 44, 56, 59, 89, 97..; 36, 58, 92, 102.../

Паралельна з клічнай формай у якасці звароткі ўжываецца назоўны склон імёнаў. У гэтай функцыі у мове рамана сустракаем наступныя назоўнікі: сынок, сыночак, унучак, унучачак, Адась, Адасік, Адасічак: Не спяшайся, сынок, з работай. Адпачні /114/; Так цяпер, унучак, усе робяць /28/; Вось што, Адась, прыбягай да мяне /56/; Адасік, дзякуй богу. Гэта ж учора Ткач казаў, як быццам Адась прыехаў /238/; Гаварыць няма каму... жаніся, Адасічак /192/.

Зрэдку ў мове рамана адзначаецца выпадкі ўжывання формы клічнага склону імёнаў мужчынскага роду у значэнні назоўнага склону: папо, Юрко, Міхалко: і папо твой будзе незадаволены /42/; Прыцягнуўся і працавіты дамесад трунар Юрко/79/; Якраз Міхалко надумаў жаніцца /140/.

Такая разнастайнасць форм сведчыць пра арыгінальнасць гаворкі, пра яе самабытнасць, што вытлумачваецца ўзаемаўплывам беларускай і ўкраінскай моў, на мяжы якіх жыве гаворка, а таксама спрадвечнай трываласцю і стойкасцю яе да ўсякага знешняга ўплыву.

[1] Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся.-- Мн., 1983, с.39.





## З ГАВОРКІ ВЁСКІ АЛЬМАНЫ СТОЛІНСКАГА РАЁНА

У. У. Барысюк, Н. М. Буяк /Брэст/

І сёння яшчэ на Беларусі захавалася колькі вёсак, чыцаўняя "адарванасць" якіх ад "вялікага" свету паспрыяла местачкоўцам зберагчы сваю мову. Да ліку апошніх адносіцца вёска Альманы, якая ажно да пачатку васьмідзесятых гадоў увогуле была адарвана ад усяго свету. Галоўным транспартным сродкам летам была лодка, а зімою -- сані. У 1982 годзе былі праведзены меліярацыйныя работы, а крыху пазней пракладзена шасейка да райцэнтра. Іменна на гэты час прыпадае інтэнсіўнае будаўніцтва вёскі: узводзіцца трохпавярховая школа, дзіцячы сад, пошта, магазіны, пашырае межы жыллёвы комплекс. Моладзь застаецца у вёсцы. На сёняшні дзень у вёсцы налічваецца каля 600 двароў. І усё было б, як кажуць, добра, каб не трагедыя на Чарнобыльскай АЭС. Яна закранула вёску Альманы. Тут самы высокі узровень радыяцыі па раёне. Людзі вымушаны выязджаць з вёскі, бо далей тут жыць стала небяспечна. У зусім недалёкім будучым вёска можа знікнуць назаўсёды. Аўтарамі ідзе інтэнсіўны запіс дыялектнага матэрыялу, у прыватнасці фразеалагічных адзінак запісана звыш 250, частку якіх падаем у гэтым артыкуле.

АЖ ВОКО РЭЖЭ. Пра надта яркае штосьці. Твое гетэ плацье аж воко рэжэ, і не думай ёго надзеваць.

АЖ ЕЗЫК НА БОРОДУ ЗВЕСІЎСЯ. Вельмі стаміцца. У мене аж езык на бороду звесіўся, пока мы з Жукова прышлі.

АЖ ШКУРКА ГОРЫЦЬ. Пра шкадлівага чалавека. На ём жэ аж шкурка горыць, так і цікуй, бо наробіць беды.

БРАЦЬ ЗА ДУШУ. Перажываць. От ужэ ж мене за душу берэ, як мой Сашо на мацыклета садзіцца, коб знала, то й не купляла б.

БРАЦЬ НОГІ НА ПЛЕЧЫ. Уцякаць. Пока не позно, хлопчэ, то бери ногі на плечы і шчоб духу твого тут не было, бо як зловяць, то не пошкодуюць.

БЫ З ВОЎЧЫХ ЗУБОЎ. Пра памятую вопратку. Зайбо, поўшюк гетэ плацье, бо бы з воўчых зубоў, стыдно й на людзі у ём показацца.

БЫ СЕРЭДА НА П'ЯТНІЦУ. Нядобразычліва, незадаволена глядзець. Ну, от чого ты дзівішса на мене, бы серэда на п'ятніцу, быттом я цебе рэзаць собіраюса.

БЫ СМОЛА ДО ДЗЕРЭВА. Вельмі рашуча і неадступна. Твой Володзя прыстэў до мое дзеукі, бы смола до дзерэва, проходу не дае.

БЫ У ВОДУ ОПУШЧАНЫ. Пра чалавека нечым прыгнечанага, без настрою. Послі жончыной смерці Олэсь бы у воду опушчаны ходзіць.

БЫ У ЖАБЫ. Пра вельмі халодныя рукі, ногі. А рукі бы у жабы! Возьмі скорэй да потры йіх одна об одну.

БЫ ХІМА ГАЛОУЧЫНА. У вёсцы і сёння яшчэ пражывае жанчына, рост якой амаль два метры. Адсюль і узнікненне фразеалагічнай ацэнкі. Звычайна так кажуць пра высокага чалавека. Ну й выросла гета Дусіна дзеука, бы Хіма Галоучына.

ВОЧЫ ВЫПЛАКАЦЬ. Многа плакаць. Бедна Леонцьеуна ужэ усе вочы выплакала чэрэз гетого Віця, а вон прыедзе на тры дне і зноу цэлы год не показваецца.

ЖДЫ ПЕТРА — СЫРУ НАЕСІСА. Пра ненадзейнага чалавека. Як жэ жды Петра — сыру наесіса. От побачыш, шчо Васік не прынесе нічого, скаже, шчо не найшоу ці забыуса.

ЗАРОБІЦЬ, БЫ БРОЦКІ НА МЫЛІ. Вяскоуцы перадаюць з пакалення у пакаленне, што калісь, яшчэ, як кажуць, пры палякх, быу такі чалавек з вёскі Кашары Броцкі, які таргавау мылам і прагарэу на гэтай справе. Значэнне фразеалагізма — пратаргавацца. Ох, дочанька, заробіш ты з гетымі поросятамі, бы Броцкі на мылі, давай мо я лутчэй іх на базар повезу.

КАЛЮГІ ЗМЕРАЦЬ. Набраць у боты вады. Мой малы учора калюгі як змерау, то цепер усёй дзень лежыць — і кашляе, і цемпература пыд сорок.

ЛЕЗЦІ У ЧУЖЭ КОРЫТО. Умешвацца у чужую размову. Чого ты лезеш у чужэ корыто, мы і без цебе добра поговорым.

МАКСІМКОВА ГОЛОУКА. Некалі у вёсцы жыу надта ад прыроды хітры чалавек. Зараз так гавораць пра вельмі хітрага чалавека. От Максімкова голоука, гето ж трэба было таке прыдумаць: порубау собе руку, шчоб у арміі не служыць.



НАЙШОУ ХАНЯ МАНЮ. Пра падобных людзей. Ну то ты поба на Пауліковопо хлопца — сам хітры, а жонка іншчэ хітрэйша. Гето ж найшоу Ханя Маню!

НЕХ ТОБЕ КОШ І РЫБА! Воклік з выпадку нечага нечаканага. — Ой, учора пераходзіла канаву да чуць не утопіласа. Нех тобе кош і рыба! То ж трэба было дзівіцца!

ПРЫЧЭПІЦЦА, БЫ РАК ДО БЕРЭГА. Хадзіць следам за кім-небудзь. А чого ты прычапіуса до мене, бы рак до берэга, може я не хочу, шчоб ты мене проводзіу!

ПЫД БЕРЭЗЫ ПОЙЦІ. Памерці. Скоро і я ужэ пыд берэзы пойду, хваліць, пожыла свое.

ПЫШПІРАЦЬ ПЛЕЧАМІ. Бяздзейнічаць. І як вам не стыдно, Васіль ледзь того мешка несе, а воны пыдперлі плечамі плота да стояць, хоць бы одзін помог.

РОЗРЫВАЦЦА НА РОБОЦІ. Многа, не шкадуючы сябе, працаваць. Ганька без мужыка дзецей годовала, аж розрываласа на той робоці, але усех хлопцоу своїх у людзі вывела.

СЕМЕН БАБІ РОДНА ЦЁТКА. Вельмі дальняя радня. — Я й не знаю, шчо вы свое! — Ой, яке там свое — Семен бабі родна цётка, але ж наш род малы, то шчытаецца, шчо свое.

СЕРЦЭ КРОЙІЦЬ. Мучыць. За шчо ты мне серцэ кройіш? Хіба я віновата? Ты ж сама за його йшлі хоцела.

СЁМАЯ ВОДА НА КІСЕЛЕ. Вельмі дальняя радня. Ой, екая мы родня — сёмая вода на кіселе, але ж раз ужэ позвалі, то мусіш іці.

СОБІРАЦЦА БЫ НА ОЛЬМАНСКЕ ВЕСЕЛЬЕ. Доуга збірацца. Збірайса скорэй, а то собіраешса бы на ольманске веселье, мы і так ужэ опаздваём.

СОРОКІ УХОПЯЦЬ. Пра чалавека, які доугі час умываецца. Ходзі скорэй, хваціць, ужэ умываласа, а то сорокі ухопяць.

СУШЫЦЬ ДОСКІ. Чакаць блізкай смерці. Ну усё, бабо, сушыце доскі. Раз Ганулька умерла, то й вам не доуго ждаць осталоса. Вона там без вас і тыждэнь не выдзержыць.

ШЫЦЬ-БЕЛІЦЬ — УЗАЎТРА ВЕЛІКДЗЕНЬ. Работы многа, а часу мала. — От тобе роботы з гетым весельём! — Не кажы, шыць белiць — узаутра Велікдзень, коб хоць успець усе зробіць.

## З МІКРАТАПАНІМІІ ВЁСКІ ТУЛЯЦІЧЫ

Гарбачык М.Р., Станкевіч В.Л. /Брэст/

Вёска Туляцічы, дзе сабраны намі мікратапонімы, знаходзіцца у Іванаускім раёне Брэсцкай вобласці, гаворка якой, згодна з класіфікацыяй Ф.Д.Клімчука, адносіцца да тараканскіх гаворак.

Мікратапонімы в.Туляцічы /аронімы, гідронімы, дэндронімы/ выклікаюць цікавасць як з лексіка-семантычнага, так і з граматычнага пункту гледжання.

### I. Аронімы

БАЛЮЧКО́ВЭ н.р. Поле.
БОРЭ́СЧЫКОВЭ н.р. Поле.
БА́ТЮШЧЫНЭ н.р. Поле.
БІ́ЛЫ ПО́ПЛАЎ Сенакос і паша.
БІ́ЛЯНСЬКЭ ЛУГА́. Лугі.
БУЛАНУ́В ЛУГ Луг.
БЫЗДІСЬКЭ н.р. Поле і луг суседняга калгаса в.Бездзеж Драгічынскага р-на.
БЫРО́ЗОВЫ м.р. Балотні груд з сенакосам.
ВАКУ́ЛЫЦЬКЭ н.р. Сенажаць у балоце.
ВЫРА́ТЫЯ ГРАБО́ВОГО. Сенакос на балоце, які пачынаецца з груда.
ВЫРЖУ́ТЯНКА ж.р. Сенажаць у балоце.
ВЫСО́КА ДОРО́ГА. Дарога, якая цягнецца у балота.
ВЭ́ГОН м.р. Сенакос і палетак.
ГОРЫ́ХОВ м.р. Сенакос з грудом на балоце.
ГРАБІ́В м.р. Сенакос з грудком на балоце.
ГРА́БОВСЬКЭ н.р. Поле.
ГУМЫ́НСЬКЭ н.р. Поле, якое знаходзіцца недалёка ад могілак.
ГЫРЭ́ мн.л. Сенакос і палетак.
ДАНЫСЕ́ВЭ н.р. Поле.
Е́СЫНЬ м.р. Сенакос з грудком на балоце.
ЖЫЛДА́НЧЫКОВЭ н.р. Поле.
ЗАВА́РСЬКЭ н.р. Поле і луг суседняй вёскі Заверша.
ЗАКРУ́ЖНЫ ЛУГ. Луг.



ЗАМАЛЭ́ННЕ н.р. Сенакос і палетак.
ЗАНЭ́ВА ж.р. Палетак, які знаходзіцца недалёка ад лесу.
ЗВІ́ННЫК м.р. Сенакос з грудком на балоце.
КА́МПЭ мн.л. Палетак, які знаходзіцца непадалёк ад сажалкі.
КРЫЧЫ́Ў м.р. Сенакос і грудок на балоце.
КОРО́ЛЁВЭ н.р. Поле.
КОТЫ́В ЛУГ. Луг.
КРАІ́ мн. Сенажаць ля самага балота.
МЫЦЯКО́ВЭ н.р. Поле.
ЛЭ́ПНЫК м.р. Сенакос з грудком ля ракі.
ЛЭ́СОВА ГОРА. Поле з узгоркам.
МАЗШЛІВ м.р. Сенакос з грудком у балоце.
МАКАРО́ВЭ н.р. Поле.
МАКАРЫ́В м.р. Луг.
МОРГЭ́ мн.л. Сенакос і палетак.
НАДА́ЙКЭ н.р. Сенакос і палетак.
НЭ́СЬКА ДОРО́ГА. Дарога, якая па нізіне цягнецца да балота.
ОКРУ́ЖНОВЭ н.р. Поле.
ОЛЭ́НЁВЫ ГРУД. Сенакос з грудком ля ракі Ясельда.
ОЛЬХО́ВЭ н.р. Балотні груд з сенакосам.
ПОГО́НЯ БЫЗДІ́СЬКА. Частка балота, якая належыць калгасу в.Бездзеж.
ПОГО́НЯ ЗАВА́РСЬКА. Частка балота, якая належыць калгасу в.Заверша.
ПОДА́ЙКОЎ ГРУД. Сенакос з грудком на балоце.
ПОМІ́РКЭ мн.л. Забалочаныя участкі зямлі.
ПУСТОСНІТ м.р. Сенакос з грудком на балоце.
РЫЧЭ́ЦЯ ж.р. Палетак, які мяжуе з крыніцай.
СКОПЫ́ЦЬ м.р. Сенакос з грудком ля ракі Ясельда.
СУЛЭЧЫ́УСКІ ЛУГ. Луг.
У ГРУДА́Х. Палетак у балоце.
У САДА́Х. Палетак у былым садзе.
ХАУРЫ́ЛЬЧЫНА ж.р. Балотні груд з сенакосам.
ХВОЁВЫ ГРУД. Сенакос з грудком на балоце.
ЧМЫ́РУКІВ м.р. Луг.
ЧО́РНОЕ н.р. Балотні груд з сенакосам.
ЧОРНЫ ГРУД. Сенакос з грудком ля р.Ясельда.

## II. Гідронімы

БАЛЮЧКО́ВА ВЫРВІНА́. Сажалка і назва луга́, дзе выцякала з-пад зямлі крыніца.

БОЛОТЦА н.р. Назва месца, дзе пачынаецца крыніца, якая запаўняе азёры.

БРОДОК м.р. Невялікая сажалка, якая знаходзіцца недалёка ад вёскі.

БУ́ЛАНОВЭ ГО́ЗЫРО. Возера, якое знаходзіцца непадалёк ад балота.

КІ́НЕЛЭ ГО́ЗЫРО. Возера ў в. Лядавічы Іванаўскага раёна.

НО́ВА САЖО́ЛКА. Сажалка.

ПЯКУЛЫЦЬКЭ ГОЗЫРО. Возера ў в. Лядавічы Іванаўскага раёна.

ПЛА́СО н.р. Крыніца, якая цячэ ў балота.

РОВЭ́. Выкапаная канава, якая цячэ ў балота.

САДО́ВЭ ГО́ЗЫРО. Возера ў в. Лядавічы Іванаўскага раёна.

СТА́РА СА́ЖОЛКА. Сажалка.

## III. Дэндронімы

ВАЛЬКО́ВА НЭ́ВА. Лес.

ВО́ЛКА. Лес.

ВЫНДЖО́ВА ХВОІ́НА. Невялікі лес, які знаходзіцца ля балота.

ГАЁК м.р. Гай.

ГРА́БНЫК м.р. Невялікі лясок, які знаходзіцца ля крыжавых дарог.

ГУБА́ ж.р. Лес.

ЗАВА́РСЬКІ ЛІС. Лес, які знаходзіцца ля вёскі Заверша.

ЗАКРУ́ЖНОВА ХВОІНА. Невялікі лес.

КАЛЭННЫК м.р. Лес.

КОЗЭ́ЧАНКА ж.р. Лес.

МЫКЭ́ЦЬКІ ЛІС. Лес, які знаходзіцца ля вёскі Мікіцк.

ОЛЁСА мн.л. Лясы, якія цягнуцца ля балота, што непадалёк ад р. Ясельда.

ЯВГА́НЯ ж. Назва часткі лесу, які знаходзіцца ля былога хутара.



## АСАБЛІВАСЦІ УТВАРЭННЯ І УЖЫВАННЯ НАЗВАЎ ЖЫХАРОЎ У ГАВОРКАХ ЖАБІНКАЎСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Гераськіна Т.А., Кавалеўская Н.А. (Брэст)

Катайконімы Жабінкаўскага раёна часцей за ўсё утвараюцца з дапамогай суфікса -эць для асоб мужчынскага роду і яго варыянтаў -івэць, -овэць/-евэць, -ынэць, -янэць ад розных тыпаў тапонімаў:на -ово, -ево, -і, -ы, -ка, -кі, -ычы, -ае, -е. Напрыклад: в.Бульково - бульковэць, в.Хмэлёво - хмэлёвэць, в.Бусні - бусневэць, в.Багны - багнівэць, в.Омэлынка - омэлынэць, в.Замошань - замошанэць, в.Томашкі - томашковэць, в.Орэпычы - орэповэць, в.Глубокэ - глубоковэць, в.Залуззе - залузьковэць.

У назвах жаночага роду найчасцей ужываецца суфікс -к- і састаўны суфікс -івк-, якія далучаюцца да тапонімаў на -ы, -і: в.Канатопы - канатопка, в.Сцяпанкі - сцяпанківка, в.Ходосы - ходосівка, в.Тэлякі - тэляківка. Падобныя утварэнні набываюць гутарковую афарбоўку, адрозніваюцца экспрэсіўнасцю ад нейтральных форм мужчынскага роду. Пры гэтым можа ўзнікнуць непажаданая двухсэнсоўнасць: в.Омэлынка - омэлынка, в.Старое Сыло - старосілка, в.Пылыповычы - пылыповка. У такіх выпадках перавага аддаецца адназначнаму суфіксу -чанк-, з якім утвараюцца аттапанімічныя назвы ад бяссуфіксных і суфіксальных асноў на -ы, -ово, -ка, -ыця, -ычы, -анэць: в.Бобры - бобрівчанка, в.Бульково - бульковчанка, в.Сыховычы - сыховчанка, в.Рудка - рудковчанка, в.Рокытныця - рокычанка, в.Стрыганэць - стрыганчанка. Ад асобных тапонімаў магчымы варыянты з суфіксамі -анк-/-янк-, -чанк-, -і, -к-, -учк-: в.Бульково - бульковчанка, бульківка; в.Бобры - бобрівчанка, бобрівка; в.Сычэво - сычовлянка, сычівка; в.Яковчічы - яковчанка, яковчучка. Утварэнні з апошнімі суфіксамі маюць размоўны характар.

Ад некаторых населеных пунктаў Жабінкаўскага раёна адсутнічаюць назвы асоб жаночага роду: в.Вішкі, Глубокэ, Залуззе, Матясы, Пантюхы, Подлісое, Пруські, Рачкі, Сакы, Соколово, Стовпы, Томашкі, Шпыталі.

У назвах множнага ліку выкарыстоўваецца пераважна суфікс -ц- і яго вытворныя -овц-/-евц-, -івц-, якія далучаюцца да розных тыпаў тапонімаў: в.Замошань - замошанці, в.Соколово - соколовці, в.Лясоты - лясотовці, в.Дяглі - дяглёвці, в.Бодюкы - бодюківці, в.Богданы - богданівці.

ДЛЯ БРЭЗІРУ. Для прилiку. Нэ чэпай: грэбэнь лежыт для брэзiру.

ДЭ ТОНКО, ТАМ І РВЭЩЦА. Бяда ці непрыемнасці ідуць адно за адным. У Гуліхі ледь на хлеб фатае, а тут шчы хлев згорев. Дэ тонко, там і рвэщца.

З СНУ ЗЛЕПЛЕНЫ. Пра санлівага чалавека. Шчо ты з сну злеплены? Спыш да спыш.

І НА ЛЕС БЫ НА ЛЮДЫ. Пра нешта аднолькавае. Бач ты -- голіна пэрэломалася. І на лес бы на люды -- гібнэ усэ.

НЭ ДАСЫ ОТЧОТА. Пра работу, вынікі якой не відавочныя. Такая робота, шчо отчота нэ дасы. Тэчэцца ано.

НЭ ДАТИ РАДЫ. 1. Не управіцца з некім або нечым. Нэ даты рады гэтому дытяты. Убой нейкі. Ныц нэ боіцца. 2. Мець празмерны апетыт. Гэтой кісці /кішкі/ нэ даты рады. Увэсь час есты хочэщэ.

НЭ ЁЗДЫТЭ ПО-СОБАЧЫ. Не ездзіць праз сілу канём. "Нэ ёздытэ по-собачы!" -- наказвав батько сынам, коб нэ гналі коня моцно.

НЭ КІЕМ, ТО ПОЛЕНОМ. Як не адно, то другое. Нэ кіем, то поленом. Тое самэ выдэ.

ОТ ВАНТУХ. Так вяскоўцы прыказваюць, калі размова ідзе пра ненаежную істоту. От вантух, жрэ да жрэ. Трэба бульбу гэто нэ даваты, а то самым нэ будэ шо есты.

ХОДЫТ КАНДІБОБЭРОМ. Гніць пакрыўджаным, надзьмутым або ганарлівым. Бач ты, наш господар вжэ знов кандібобэром ходыт. Хто ёму нэ вгодив?

ШЧЫ ЧЫРВОНЕТЫ. Яшчэ рана пра смерць думаць, яшчэ мець здоровы выгляд. Шчы нэ дивыса ты умыраты, шчы чырвонэш.

ЯК КРУК НАД ПАДЛОМ, абрээл. Настойліва, надакучліва аб нечым клянчыць. Шчо ты стоіш надо мною, як крук над падлом? Просы нэ просы, а грошэй нэ дам.

ЯК МАЕ БУТЫ. Належным чынам. Михалковы ж унук пэрэговорщыком став. Ппрэхае як мае буты.

У гаворцы вёскі Горск існуе шэраг арыгінальных выразаў, узнікненне якіх звязана, як правіла, з традыцыйным народным календаром /До спления, до спаса бульбу і цыбулінку на чапай нытды./, з гістарычнымі падзеямі /Дожылыо полякі, шо нэма нэ хлеба, нэ табакі./.



## ГРУНТ ЖЫВОГА СЛОВА

Т.Кананенка /Брэст/

Сёння усё часцей можна прачытаць пра дзіўосную цярплівасць, пакладзістасць беларусаў, пра тое, што гэта самы бяскрыўдны народ з усіх усходніх славян. І складваецца ў некаторай часткі людзей уражанне, што ён [народ] абыякавы, раўнадушны да усяго, і [illegible] сябе ў тым ліку. Другая частка людзей, усведамляючы рэальны стан, у якім мы апынуліся ў плыні неспагаднай да нас гісторыі, мае надзею на духоўнае Адраджэнне – народа і кожнага асобнага беларуса.

У гэта можна і трэба верыць. Бо не жыў і не будзе жыць без дабрыні і спагады да самога сябе народ. Толькі выяўляецца яна, дабрыня і спагада, своеасабліва, калі не арыгінальна.

У жывых гаворках ёсць велізарны, цэлы пласт лексікі, які выражае ацэнку асобы чалавека, – эмацыянальна-ацэначныя назвы асобы. Ён складаецца з некалькіх тэматычных груп слоў, якія характарызуюць чалавека паводле яго адносін да працы і абавязкаў, да іншых людзей, паводле яго разумовых здольнасцяў, знешняга выгляду паводзін, фізічнага стану: працоўнік, мурзазэй, выжла, выжага, балу-балу, даліктун, даліктуся, роспуста, мазя, упірок, круча, хамула, ёрза, бэнкаўка, боўмаз, пэйсач, кошла, лахудра, выстэгожка, сечка, порожылля, вэрэня. [Го працоўнік будэ Мапін хлопэц, бы бацько ёго. Гэто ж некі балу-балу, а нэ кавалер, як жэ вона з їм жыці збіраеца. Чого можна ждаці од хамулы, совэсці і людскоосці нэма у такого чоловека. Бй пэйсачэ ходзят по сэле ваго молодые, кудлаты, аж страшно глэдзеці (Шылін Бярэз.). Круча і віхор а нэ дзіця гэто (Пясчанка Бяроз.). Порожалля, нэ хавайса, а пошл. сыно повэрнэм. Чого стоіш, вэрэня, одыйды, а то найду. Як напіўса, то нэ будь упірою, а іды дохаты, ужэ стары чоловік, а роспуста, бы той хлопчык (Радчыцк Стол.). Ну й даліктуся гэта Пурыкава [illegible]ка. Навет ніколі карча картоплі не укапае (Востраў Ганц.)].

Назіранні над гэтай групай слоў праводзіліся на матэрыяле "Дыялектнага слоўніка Брэстчыны", "Тэматычнага слоўніка эмацыянальна-ацэначных назваў асобы ў гаворках Брэстчыны" Г.М.Малажай, Т.М.Кананенкі, запісаў народных гаворак, зробленых студэнтамі філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута, непасрэдных назіранняў над жывой гаворкай вёскі Шылін Бярозаўскага

ца — в.Гнее́чыцы, панцівляни́ца — в.Панца́вічы.

Націск у вытворных у большасці выпадкау падае на перадапошні склад: рукчани́ца — в.Ру́кча, струхани́ца — в.Стру́га. Магчымы паралельныя акцэнталагічныя варыянты: глінни́ца і глі́нница — в.Глі́нка, плотнічані́ца і плотні́чаніца — в.Пло́тніца.

Словаўтваральны тып катайконімаў з суфіксамі -ук, -юк, -чук прадуктыўны у гаворках Заходняга Палесся і семантычна нейтральны. У сучаснай беларускай мове суфікс -ук, -юк, -чук яшча нядаўна ўжываўся у эмацыянальна-экспрэсіўной функцыі. Мужчынскія наміналы ў афармленні гэтага суфікса утвараюцца

а) ад асноў айконімаў мужчынскага роду на -эц, -ка: камянчу́к — г.Камяне́ц, страшчу́к — в.Страша́ц, міхальчу́к — в.Міхялі́на, пінчу́к — г.Пі́нск. Суфікс далучаецца да поўнай і да ўсечанай асновы айконіма. На стыку марфаў можа адбывацца чаргаванне к/ч, калі аснова айконіма заканчваецца на -ск: бэльчу́к — в.Бельск, хомчу́к — в.Хомск;

б) ад асноў айконімаў жаночага роду на цвёрды і мяккі зычны: опачу́к — в.Апа́ка, смалярычу́к — в.Смаля́рча. На стыку марфаў адбываецца чаргаванне к/ч, х/ш, ц/ч (горбашу́к — в.Гарба́ха, хрушу́к — в.Хрыса);

в) ад асноў айконімаў ніякага роду на -ова/-ава і на зацвярдзелы зычны: абрамчу́к — в.Абра́мава, сулічу́к — в.Сулі́чава, зарэчу́к — в.Зарэ́ччэ;

г) ад асноў множналікавых айконімаў на -ічы/-ычы, -кі, цвёрды і зацвярдзелы зычны: страчу́к — в.Стра́дзічы, барчу́к — в.Ба́ркі, дягачу́к — в.Дзяго́ты, хидру́к — в.Хі́дры. Націск устойліва захоўваецца на дэрывацыйным суфіксе.

Асаблівасці ўтварэння гэтых найменняў у тым, што іх семантыка мае дзве амані́мічныя формы, з якіх адна мае негатыўную адзнаку, а другая не мае гэтай адзнакі. Зараз суфікс -ук, -юк, -чук набывае ярка выражаную нейтральную функцыю, катайконім у яго афармленні ўсё часцей трапляюць у перыядычны друк.



# З ГАВОРКІ ВЁСКІ ГОРСК БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

А. В. Казловіч /Брэст/

Лексічны і фразеалагічны матэрыял запісаны аўтаркай у вёсцы, адкуль вядзецца яе радавод і куды час ад часу выбіраецца яна з тлумнага гарадскога жыцця, каб асвяжыцца, прайсціся сцежкамі сваіх дзядоў і прадзедаў. Матэрыялы запісаны ад Казловіч Надзеі Антонаўны /1926 г.н./.

ВЭНЗА́РНЯ ж. Вяндлярня. Нэсы ковбасы до вэнзарні.

ГАЛЁПА ж. Розныя фігуркі, скачаныя з мукі. Галёпы робылі до благовещчэння. З мукі. Птушэчкі вылеплялі, давалі детям. А гэто вэсною було, колі прылетают бусні. Тоды казалі: "Бусэнь, на тобе галёпу, а дай нам жыта копу".

ГУ́НЬКА ж. Радзюжка, якою накрывалі з умыслу конэй. У гаворцы вёскі звычайна ўжываецца яшчэ пры характарыстыцы брудна-га чалавека. Марата бы гунька.

КОЛО́ШВЫ мн. Від адзення, што апраналася на ногі. Одела колошвы на болото, коб об пожню ног нэ пропороты.

КЭ́ЛЬНЯ ж. Своеасаблівая скрыня ці прыстасаванне, якое рабілі з лазы і клалі у воз каб поравозіць што-небудзь. Зараз ужываецца ў параўнаннях пры характарыстыцы чалавека. Наш огроном росстарався: хочыть бы кэльня, да ліцо як табліца.

СПЭЛІ́ТЫ незак. Даваць час, каб паспела. Тоды і бульба нейкая зелёная була, трэба було спэліты.

ШКУРЛЯ́К м. Пра чалавека, які вельмі худы. Очы вочы блішчат, нэма на шо глядеты. Шкурляк дай годы.

ШЫХАБА́ЦЬ незак. Шаптаваць. Ужываецца з адмоўем не. Нэ шыхуе мне вжэ другі год на овыней. Зноў старая захворэла.

ЦЫБУ́К м. Сцяблак у цыбулі. У традыцыйных параўнаннях выкарыстоўваецца ў значэнні 'худы'. Прывёз Стэпан нэвестку, худэнькую, шчупленькую, а ногі бы цыбукі.

А ПРЫЙШЛА́ ПОРА́ ТВОЯ́ І ІДЫ́ З ДВОРА́. Памерці. Ныхто нэ пытае, хочэш чы нэ хочэш умыраты. А прыйшла пора твоя і іды з двора.

БЫ МАЙ ЗМАЁВА́В каго, што. Хто-небудзь або што-небудзь раптоўна знікла, прапала. Нэма моеї хусткі з квэткамы, бы май змаёвав.